# Згода

**ПАЛІТЫКА**

N 14 (151) • 21—30 ЧЭРВЕНЯ 2000г.




ТЕМА НОМЕРА

Алексей Король

# ВЫБОРЫ: ПРОБЛЕМЫ И РЕШЕНИЯ

**Не было и нет в мире ни одного диктатора, который бы не стремился сделать свою власть пожизненной, еще лучше — наследуемой, с посмертным обожествлением собственной персоны. Удавалось это немногим, и никому на века. Заговорами, переворотами , путчами, восстаниями, революциями ("бархатными" и не очень), разрушением мавзолеев и низвержением вчерашних идолов пестрит история диктаторских режимов. И ничему не учит новых претендентов на абсолютную власть.**

Александр Лукашенко не исключение, хотя его диктаторская судьба и не лишена некоторого своеобразия. Умудрившись дважды использовать демократическую процедуру (выборы и референдум) как отмычку и как дубину для прорыва к единоличной власти, он в третий раз пытается сделать то же самое — использовать парламентские, а затем и президентские выборы для удержания своей власти, укрепления режима. И к тому же еще добивается признания законности этих выборов международным сообществом.

На день сегодняшний авторитарный режим, созданный Лукашенко, достаточно силен, чтобы провести, обеспечив победу своих назначенцев, выборы по советской схеме в квазипарламент. Но ему почти наверняка грозит поражение в выборах, организованных в соответствии с общепризнанными международными стандартами, в выборах даже не полностью, а относительно свободных и относительно демократических. Возможно, Россия и признает первый вариант, с последующим его продолжением в виде президентских выборов, но уже на условиях абсолютной вассальной зависимости Лукашенко от Москвы. Похоже, тот с подобной участью пока не смирился и все еще пытается сыграть свою игру, стремясь добиться легитимизации режима, не сделав ни одного реального шага к его демократизации. Сильнейший из наркотиков — наркотик неограниченной власти — продолжает определять все его поведение.

Имей Лукашенко хотя бы малейшую возможность сохранить статус-кво, не прибегая к выборам, он бы, не колеблясь, их отменил. Однако в том-то и состоит своеобразие всей ситуации в Беларуси, что политический кризис в стране может быть разрешен только посредством выборов. У властей не хватает административного ресурса и хотя бы нейтрального безразличия мирового сообщества для силового решения, у демократической оппозиции не хватает сил и соответствующего настроения в обществе для «бархатной революции».

Этими обстоятельствами и определяется предвыборная тактика властей: не просто закамуфлировать тоталитарную избирательную модель в демократические одежды, но придать выборам на всех стадиях максимально убедительную для международных организаций демократическую форму, сохранив за собой полный контроль над их ходом и результатами. Именно соображениями о степени контроля определяются пределы их уступок демократическим силам и международным институтам.

Вынужденной уступкой было уже само решение вступить в переговорный процесс с оппозицией, в сколь бы усеченных и непрямых формах он не проходил. Уступкой было и соглашение о доступе оппозиции к государственным СМИ, тотчас дезавуированное Лукашенко. Страхом утратить контроль была продиктована и попытка подмены переговоров так называемым широким общественным диалогом. Отставка заместителя главы администрации Русакевича объясняется теми же соображениями: он показался Лукашенко слишком мягким переговорщиком. Взамен на передовую линию борьбы за выборы возвращен "*железобетонный*" Заметалин.

Маневр с "*диалогом*" фактически был разоблачен уже на его начальной стадии отказом девяти оппозиционных партий принимать какое бы ни было участие в предлагаемом фарсе. Саморазоблачение продолжил сам Лукашенко на заседании 30 мая, весьма наглядно продемонстрировав, кто в действительности является дирижером диалогового хора. И сам же завершил, отвергнув практически все сколь-либо значимые поправки к кодексу, предложенные участниками диалога, оставив палатникам для утверждения сугубо косметические.

Так что же, борьба закончена? Власть показала предел своих уступок? И страну в октябре ждут выборы по сценарию референдума 1996 года? И каким в сложившейся ситуации должен быть ответ оппозиции, ответ международного сообщества? На данный момент их ответы совпадают. У них общая основа — четыре условия (прозрачность избирательного процесса, введение в состав избирательных комиссий всех уровней представителей различных политических сил; доступ партий к СМИ; установление значимых полномочий парламента; соблюдение "*периода мира*", требующего прекращения политических репрессий и политического подавления путем преследований в уголовном порядке), согласовать которые необходимо в ходе прямых переговоров между властью и оппозицией.

Как отмечается в заявлении делегации парламентской Тройки по итогам визита в Беларусь от 22 июня, на данный момент условия не выполнены, в переговорах — тупик. На данный момент «*делегация не смогла бы рекомендовать своим институтам направить международных наблюдателей за парламентскими выборами в Беларуси осенью этого года*». Призыв же к правительству использовать в максимально возможной мере "*то небольшое время, которое еще осталось, для переговоров и существенного улучшения в обозначенных областях*» читается как вполне ясное послание: белорусским властям не следует рассчитывать на некую усталость европейского сообщества от белорусской проблемы, на вероятность расслоения его единой позиции, на обострение неких противоречий в подходах европейских государств и США. Консультативный совет оппозиционных партий на своем заседании, состоявшемся в тот же день 22 июня, обсудив итоги визита Тройки, отметил полную созвучность его позиции, изложенной в заявлении.

Окончание на с. 4

27 ЛІПЕНЯ

# ЗА НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ

**29 ліпеня павінен адбыцца чарговы Усебеларускі з'езд. Ініцыятыва яго склікання належыць найвядомым у краіне дзеячам культуры, сярод якіх Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін, Анатоль Грыцкевіч, Радзім Гарэцкі. На думку арганізатараў, з'езд павінен прадэманстраваць прыхільнасць народа Беларусі найгалоўнай каштоўнасці — яе незалежнасці. Аднак дагэтуль у апазіцыйных колах існуюць процілеглыя меркаванні наконт і самой ідэі склікання з'езда, і даты яго правядзення.**

**Генадзь Бураўкін**



— Я знаходжуся сярод тых, хто выступіў ініцыятарам гэтага з'езда і уваходжу ў яго аргкамітэт. Калі казаць пра рознае стаўленне да ідэі з'езда, то усе — свабодныя людзі і маюць права ставіцца да гэтага як хочуць. Зараз над Беларуссю навісла пагроза страты незалежнасці. Працэсс аб'яднання пагражае беларускай незалежнасці, як бы не пераконвалі ў адваротным нашыя інтэграсты. Калі ствараецца адна дзяржава з дзвюх, то, згодна прынцыпу міжнароднага права «*адна дзяржава — адзін голас*», пры дачыненні з іншымі краінамі выказвацца будзе адна дзяржава. Расія — вялікая краіна, з якой лічацца ў свеце, яна не захоча паступіцца сваім уплывам на карысць Беларусі, таму ў агульнай дзяржаве падначаленай будзе меншая з дзвюх частак — Беларусь. Людзі, якія выступаюць супраць з'езда, могуць не ведаць гісторыі, не адчуваць каштоўнасць незалежнасці. А гэтае мерапрыемства склікаецца якраз для абароны незалежнасці. Што ж тычыцца канкрэтных пытанняў, то яны вырашаюцца ў рабочым парадку.

**Юрый Хадыка**



— Да ідэі з'езда стаўлюся станоўча. Гэтая ідэя атрымала шырокі розгалас і водгук у грамадскасці. Таму я не выступаю супраць самой ідэі з'езда, але супраць спосабу яго склікання. Па сутнасці у мяне няма ніякіх ідэалагічных рознагалоссяў з арганізатарамі з'езда. Незалежнасць безумоўна з'яўляецца найгалоўнейшай каштоўнасцю. Але пры падобным падыходзе да справы існуе нябяспека прафанацыі самой ідэі падобнага сабрання. Я пераканаааны, што дэлегаты гэтага форуму павінны выбірацца народам. Рабочая ж группа, якая рыхтуе з'езд, мяркуе вылучаць дэлегатаў ад грамадскіх арганізацый. Трэба, каб усе людзі ў краіне ведалі пра гэтае мерапрыемства і мелі магчымасць прыняць удзел у выбары дэлегатаў. Тады форум дасягне свае мэты.

**Александр Старикевич**



— Отрицательное отношение к Всебелорусскому съезду проистекает из политических амбиций отдельных политиков. Такую позицию занимает меньшинство, поэтому я уверен, что на съезде будет найден общий язык. Претензии к организаторам выдвигают не те люди, которые работают реально, а те, кто занимает позицию наблюдателей. Многие критикующие рабочую группу сами не пошевелились для того, чтобы что-нибудь сделать. Если кто-то имеет другую точку зрения, при этом хочет высказать конкретные предложения, то двери не закрыты. Мы готовы сотрудничать ради главной цели — независимости Беларуси. Что касается формата мероприятия, то надо реально смотреть на существующую ситуацию. На съезде будут представлены многие общественные организации, в том числе партии. Предусмотрено равноправное представительство всех общественных организаций. Дата проведения съезда, по-моему, выбрана правильно.

**Вінцук Вячорка**



— БНФ станоўча ставіцца да ідэі правядзення Усебеларускага з'езда. Менавіта БНФ настаяў, каб ён называўся *Усебеларускі з'езд за незалежнасць*. Сярод ініцыятараў з'езда многа прадстаўнікоў БНФ. Але мы лічым, што не варта было штучна прыспешваць дату ягонага правядзення. БНФ вылучыў дэлегатаў і будзе прымаць чынны удзел у працы гэтага усебеларускага форуму.

## АНЕКДОТ-С

При администрации президента Беларуси организована «Служба доверия». Теперь вы можете туда позвонить и передать президенту, что вы ему доверяете.

***

— Что такое Беларусь от моря до моря?

— Это когда белорусский посол в Румынии одновременно служит консулом в Гданьске.

## ХИТ-ПАРАД ГЛУПОСТИ: ИТОГИ КВАРТАЛА



**1 место.**
*"Мы пакажам, што можам праводзіць выбары без падману і фальсіфікацый".*

(Аляксандр Лукашэнка, "Звязда", 6.04.2000)



**2 место.**
*«У участников диалога остались формально удовлетворенные лица»*

(Евгений Мележко, «Панорама», 2.06.00)



**3 место.**
*«Состоялась конфиденциальная встреча лидеров России и Беларуси в Голубом зале».*

(«Панорама», 21.05.00)

МЭДЫЯ

# ДЫСКРЫМІНАЦЫЯ

**Волька Канапель**

**Кіраўніцтва радыё «Мір», якое зьяўляецца часткаю Міждзяржаўнае тэлерадыёкампаніі й належыць радзе СНД, зачыніла адну са сваіх праграмаў. Праграма «Джаз 2О» выходзіла больш за год. Яна была прысьвечаная джазу й карысталася вялікаю папулярнасьцю сярод студэнтаў.**

Закрыцьцё адбылося пасьля выступу ў ёй Мартына Джэфрэна, прадстаўніка Швэдзкае нацыянальнае рады моладзевых арганізацыяў. Спадар Джэфрэн распавядаў пра фэстываль «GayPride 2000", які адбудзецца восеньню ў Менску. Падчас перадачы ў студыю прыйшло больш за 20 пэйджынгавых паведамленьняў, у якіх радыёслухачы выказвалі сваю падзяку за абмеркаваньне гэтае тэмы. Гэта быў першы такі падрабязны расповед у беларускім этэры пра будучы фэст.

Два тыдні пасьля гэтага аўтар і вядучая праграмы Юля Пушынская прыйшла правесьці перадачу й даведалася ад сваіх калегаў, што яе праграма зачыненая й зьнятая з сэткі вяшчаньня. Кіраўніцтва радыё не палічыла патрэбным папярэдзіць загадзя Пушынскую аб гэтым рашэньні ці хаця б растлумачыць прычыну зачыненьня праграмы. Але супрацоўнікі радыестанцыі ўпэўненыя, што не было б размовы пра восеньскі фэстываль — не было б і гэтага звальненьня. Арганізатары "GayPride 2000" распачалі акцыю пратэсту супраць дыскрымінацыі й парушэньня свабоды слова. ■

ПАДРАБЯЗНАСЬЦІ

# ПЕРАД ВЫБАРАМ



**Юлія Дранчук**

**Магчыма, неўзабаве кансерватыўна-хрысьціянскае аблічча вядомай моладзевай арганізацыі Беларусі "Малады фронт" істотна зьменіцца. На гэта спадзяецца Аляксей Шыдлоўскі, высоўваючы сваю кандыдатуру на пасаду старшыні "Маладога фронту". З мэтай патлумачыць неабходнасьць зьменаў у арганізацыі 27 чэрвеня Аляксей Шыдлоўскі наладзіў спэцыяльную прэс-канфэрэнцыю.**

Трэці Сойм «Маладога фронту» мае адбыцца 1 ліпеня. Каманда, якая прапануе сябе альтэрнатывай існуючаму кіраўніцтву "МФ", складаецца з сёньняшніх маладафронтаўцаў – Аляксея Шыдлоўскага, Андрэя Пятрова, Вольгі Анцыповіч ды іншых. Папярэдзіўшы меркаваньні пра банальны раскол арганізацыі, Аляксей Шыдлоўскі зазначыў, што сытуацыя прапановы зьмены кіраўніцтва — цалкам нармальная, гэта не скандал і не раскол: "*Арганізацыя, створаная ў 1996 годзе, апошнім часам набыла зусім іншы воблік, страціла той імідж актыўнай моладзевай арганізацыі, што быў нядаўна, стала больш рэлігіезнай і меньш сьвецкай...*" У выпадку перамогі плянамі альтэрнатыўнай каманды "МФ" ёсьць сур'ёзныя рэформы структуры арганізацыі і накірункаў ейнай дзейнасьці. На іхнюю думку, 10 намесьнікаў старшыні арганізацыі — гэта зашмат.

Таксама вялікую ўвагу маецца надаць фінансаваньню арганізацыі, наладжваньню працы дружыны, стварэньню стратэгічнага пляну дзейнасьці "МФ" дый зьмене мэтадаў кіраваньня. Асноватворным стане калегіяльны прынцып кіраваньня арганізацыяй — усе рашэньні мусяць рыхтавацца, абмяркоўвацца й прымацца калектыўна.

Скарачэньня арганізацыі за кошт тых, каму не падабаюцца зьмены ў арганізацыі, ініцыятараў тых зьменаў не пужаюць. "*Няхай "Малады фронт" будзе меньш колькасным, але больш якасным,* — лічыць Аляксей. — *Мы імкнемся стварыць не забаўляльную тусоўку, а арганізацыю сьвядомай, сур'ёзнай моладзі. Мы не адштурхоўваем 13–14-гадовых падлеткаў, але мусім арыентавацца на тую моладзь, што ставіць сабе ў жыцьці высокія мэты й імкнецца іх дасягнуць. Мы ня лічым мэтазгодным з'яву "цякучкі кадраў", як яе называе Павал Севярынец. Моладзь, што прыходзіць да нас, трэба зацікавіць так, каб да справаў арганізацыі яны адносіліся сур'ёзна і адказна.*"

Кандыдатураў на перавыбарах кіраўніцтва "Маладога фронту", хутчэй за ўсё, будзе дзьве — Аляксей Шыдлоўскі і Павал Севярынец. Абодва яны упэўненыя ў сваіх шанцах на перамогу. Абодва лічаць дадзеную сытуацыю не скандалам і не высьвятленьнем асабістых адносінаў. Розьняцца, праўда, іхныя пляны ў выпадку ўласнай паразы. Са словаў сп. Шыдлоўскага, Павал Севярынец зазначыў у прыватнай размове, што хутчэй за ўсё адыдзе ад актыўнай дзейнасьці ў "МФ" у выпадку перамогі Аляксея. Шыдлоўскі, наадварот, падкрэсьліў, што пры любых абставінах застанецца ў арганізацыі і надалей будзе працаваць на ейную карысьць. "*Калі яна ў рэшце рэшт не развaліцца*", — дадаў ён аптымістычна. ■

СУД ІДЗЕ

# ПРЫСУД КРАТА

**Тацьцяна Папова**

**За ўдзел у Маршы свабоды Валерыю Шчукіну прысудзілі год зьняволеньня з адтэрміноўкай на год. За той жа Марш ды блуканьне па Менску 27 ліпеня мінулага году Міколе Статкевічу прызначылі два гады пазбаўленьня волі з двухгадовай адтэрміноўкай. Аб гэтым даведаліся людзі, што прысутнічалі 19 чэрвеня ў гарадзкім судзе.**



### У ЗАЛЮ

Патрапіць у залю было няпроста. Напачатку ахове было загадана пускаць толькі тых, хто меў непасрэднае дачыненьне да працэсу, а таксама паважаную ў сьвеце грамадзкасьць — шматлікіх амбасадараў, беларускіх прадстаўнікоў міжнародных арганізацый, адмыслова завітаўшых старшыню працоўнай групы па Беларусі Парляманцкай асамблеі АБСЭ Адрыяна Севярына і кіраўніка падкамітэту па Беларусі Эўрапарляманту Яна Вірсму. Астатнім месца ў залі не знаходзілі. Шчукін катэгарычна адмовіўся ісьці на суд да таго часу, пакуль усе, хто сабраўся на ганку, не апынуцца на паседжаньні. Толькі пад маральным уціскам вэрбальнай актыўнасьці Веры Церлюкевіч міліцыянты зразумелі, што лепей не псаваць сваіх нэрваў, і далі дазвол прайсьці журналістам і сябрам падсудных

### НА ВОЛЮ

Гэтым разам судзьдзя Крот не захварэў і не прымусіў сакратарку казаць "Суда ня будзе". Грамада ўздыхнула з палёгкай, калі ён урэшце зьявіўся ў залі паседжаньня. Яго прамова была даволі працяглай. Амаль усе факты, выкладзеныя ў прысудзе, сьведчылі на карысьць падсудных. Тое, як Шчукін дапамагаў зьбітым міліцыянтам падняцца зь зямлі, тое, як Статкевіч намагаўся прадухіліць сутыкненьні паміж дэманстрантамі й кардонам, было аргумэнтацыяй на карысьць сівабародаму актывісту й лідэру БСДП. Які ўжо раз прысутныя слухалі скаргі пацярпелых міліцыянтаў пра парваную зімовую вопратку й скрадзеную каску. Падчас складаньня прысуду не абышліся безь недарэчнасьцяў. Пацярпелыя ўпэўненыя, што адчувалі пах алькаголю ад узрушанай моладзі (адлегласьць паміж ланцугом на мосьце й калёнай складала некалькі мэтраў), яны былі абураныя яе "цынічнымі выказваньнямі і жэстамі на адрас міліцыі". Але найбуйнейшым праступкам сталася тупаньне нагамі й сьвіст дэманстрантаў. Вось за гэта й трэба пакараць Статкевіча й Шчукіна.

Па-беларуску вэрдыкт не чыталі. Мікола Статкевіч сам папрасіў перакласьці толькі апошні абзац. Але й гэтага Радзевіч, адказны за разуменьне падсуднымі судзьдзі, зрабіць не пасьпеў. Галоўнага грамадоўца абступілі журналісты. "Тое, што тут адбываецца, нельга назваць судом,— заявіў ён. — Назоў гэтаму — палітычная правакацыя. Такія прысуды няздольныя спыніць эсдэкаў, і барацьба будзе працягвацца". Статкевіч паабяцаў і надалей браць удзел у масавых акцыях пратэсту. Замежнікі таксама не пагадзіліся са справядлівасьцю прысуду. Яны пракаментавалі яго як занадта жорсткі.

З усіх заявіцеляў Маршу свабоды толькі Вінцук Вячорка прыйшоў падтрымаць сваіх калегаў па вулічнай барацьбе за дэмакратыю. Ён ня ўсьцешаны прысудам, але ўпэўнены, што беларуская апазыцыя здолее справіцца з палітычнай ізаляцыяй дзьвюх актыўнейшых яе фігураў. Яна сама мае такі патэнцыял, што, па меркаваньні старшыні БНФ, не міне й двух год, як наша Бацькаўшчына стане цалкам дэмакратычнай дзяржавай.

### У ТУРМУ

У аўторак Валеры Шчукін даслаў афіцыйную заяву ў менскі гарадзкі суд. Ён назваў прысуд Крата палітычнай расправай над сабой. Апісаныя ў прысудзе фактычныя паводзіны Шчукіна не забараняюцца артыкулам 186³ Крымінальнага кодэксу РБ. Ён палічыў, што год адтэрміноўкі гэтаксама няволя, як і жыцьцё за кратамі. Гонар не дазваляе яму даваць камусьці справаздачы пра свае вандроўкі, а тым больш адзначацца ў адпаведнай канторы. Ён запатрабаваў пасадзіць яго цяпер і гатовы хоць заўтра заняць нары. ■

ЭКОЛОГИЯ

# САМЫЙ ДЛИННЫЙ ДЕНЬ

**Дмитрий Дейма**

**21 июня — день летнего солнцестояния. Этот день организация «Экодом» отметила экологической акцией под названием «Чтобы сохранить красоту Земли», которая прошла в 15 часов дня в парке Горького, а вечером того же дня, в клубе «Граффити», продолжила празднованием своего дня рождения: вот уже 4 года, как «Экодом» занимается разработкой планов и практической работой по разрешению экологических проблем в нашей стране.**

«Экодом» был зарегистрирован как республиканская общественная организация 21 июня 1996 года. Но свою деятельность начал еще в начале 90-х в рамках первой независимой молодежной организации в Беларуси — «Next Stop–New Life». Своей миссией «Экодом» считает создание модели гармоничных отношений между человеком и природой, в которой homo sapience был бы не хозяином и не гостем, а неотъемлемой частью живой системы мирового пространства. Основной акцент организация делает на осуществлении эффективных образовательных программах, способных не только дать информацию о существующих экопроблемах, но и показать конструктивные пути их решения.

Уже более 20 программ были проведены в жизнь, в этом году будет осуществлен проект создания велосипедного движения в Минске. «Экодом» первым в Беларуси представил программу «Эколоджик», которая использует интерактивные методы экологического образования, и «Пермакультуру» — систему экологического дизайна. Также «Экодом» работает над созданием первого в Беларуси пермакультурного демонстрационного участка и тренинг-центра. Знания, полученные участниками этих акций, дают им возможность по-новому взглянуть на мир и свое место в нем. За время своей деятельности «Экодомом» накоплен опыт организационной работы и большой объем информации. В числе ближайших планов — создание Ресурсного центра для экологических общественных организаций. ■

ПАЛАТА №1

# ФАРМАЛЬНАСЬЦІ

**Тацьцяна Папова**

**Палата прадстаўнікоў прыняла папраўкі да выбарчага кодэксу Беларусі адзінагалосна. Напрацоўкі экспэртнае групы грамадзка-палітычнага дыялёгу ўжо былі ўзгодненыя й старанна ачышчаныя ад усяго непатрэбнага ўсімі інстанцыямі. Таму нават адзін голас "супраць" можна было б разглядаць як недарэчнасьць. Абавязковае ж абмеркаваньне дакумэнта было чыста фармальным і ўяўляла сабой імітыцыю дэпутацкае зацікаўленасьці ў мэханізме дзеяньня новага выбарчага заканадаўства.**

Падрабязнасьці папраўак тлумачыла Лідзія Ярмошына. Пасьля ейнага кароткага агляду наватарстваў пачаліся пытаньні пакуль яшчэ палатнікаў. Пятру Жушме не давала спакою абавязковасьць прадстаўленьня дэкларацыі аб даходах кожным кандыдатам. Усе зьвесткі аб кандыдатах маюць быць адкрытымі для назіральнікаў і журналістаў. Кожная акрэдытаваная асоба здолее зазірнуць у фінансавыя дакумэнты спаборнікаў за дэпутацкія мандаты. За ілжывыя зьвесткі ў дэкляpацыях кандыдатаў будуць здымаць.

Складанасьці можа выклікаць галасаваньне па месцы знаходжаньня. Каб прадстаўнікі камісіі прыехалі, скажам, у шпіталь, дастаткова вуснае заявы. Пры гэтым затэлефанаваць у камісію можна й за дзьве гадзіны да сканчэньня яе працы. Але кожны ўчастак мае ня больш як тры пераносныя скрыні, назіральнікі гэтаксама маюць права сачыць за такой формай выбараў, а колькасьць машынаў для такіх вандровак абмежаваная. Дадатковых грошай на гэтыя мэты даваць ня будуць, бо бюджэт выбараў ужо цяпер складае 4 мільёны USD.

Абапіраючыся на расейскі досьвед, дэпутат Волкаў спужаўся фальсыфікацый падчас дастаўкі бюлетэняў датэрміновага галасаваньня. Ярмошына супакойвала яго аптымістычнай упэўненасьцю ў чэснасьці мясцовых уладаў. Дапамагаў Ярмошынай Анатоль Красуцкі. Ён упэўнены, што прыняцьце гэтых папраўак будзе лягічным падагульненьнем першага этапу першага "*ў гісторыі нашае маладое дзяржавы шырокага грамадзка-палітычнага дыялегу, увыніковасьць якога шмат хто ня верыў*". Ад сябе дадам: большасьць і цяпер у гэтую фіктыўную выніковасьць ня верыць. Асабліва, калі аб ёй кажа Красуцкі. ■

ДЛЯ ВЕРУЮЩИХ И НЕВЕРУЮЩИХ

# ОПИУМ ДЛЯ ГРЕЦИИ

**Олег Новиков**

**Кого только не встретишь в лагере противников европейского единства — английских пэров, бретонских крестьян, немецких нацистов... В Греции крестовый поход против объединенной Европы возглавили попы.**

Весь Пелопоннес охвачен массовыми митингами, организованными клириками православной церкви. По их мнению, греческая нация находится в опасности из-за необдуманного вступления страны в Евросоюз. Доказательства? Ради Бога, решение министра юстиции отменить во внутреннем свидетельстве гражданина Греции графу «вероисповедание». Новое свидетельство вполне отвечает стандартам европейских документов, принятых в Брюсселе, но клир усмотрел в них покушение на самобытность греков.

*«Мы — религиозное меньшинство в ЕС и в новых условиях интеграции должны сохранить свою автохтонность, равным образом как и дух православия в объединенной Европе,* — заявил архиепископ Христодулос во время митинга в центре Афин. — *Мы скажем тысячу раз «да» Европе, но мы скажем десять тысяч раз «да» Греции».*

*«Греция — это православие!»* — громогласно откликнулись на выступление архиепископа 800 000 собравшихся, размахивая сине-белыми флагами Греции и желто-черными знаменами Византии. Отмена графы *«вероисповедание»* — это только часть претензий церкви к государству. Как убежден тот же Христодулос, светская власть объявила войну православию, исключая из школьных программ Закон Божий, не обязывая чиновников вешать у себя в кабинетах иконы. Такая практика нарушает извечную формулу греческого этатизма: *«Церковь — дух, государство — тело».*

Государство отреагировало на выпады церкви спокойно. У властей есть безотказное средство в борьбе с саботажем священников. Хотя официально государство было отделено от церкви еще в 1975 году, духовные лица до сих пор получают зарплату из бюджета ■

СНГ НА ПАЛОЧКЕ

# НЕСОСТОЯВШИЙСЯ РЕВАНШ

**Панас Мырный**

**В десяти мажоритарных округах Украины состоялись повторные выборы в Верховную раду. Внешне это была чистая формальность: протащив на апрельском плебисците лукашенковский проект, Кучма вошел в зенит своего могущества. Интригу закрутили коммунисты, назвавшие довыборы новым Сталинградом. После провала в апреле отступать левой оппозиции действительно уже было некуда.**

Первой сенсацией украинских довыборов стал труп председателя избирательной комиссии в Павлограде. Поскольку тело обнаружили прямо на избирательном участке, органы прорабатывают версию, что в убийстве замешана группа поддержки одного из кандидатов. Возможно, председателя пристрелили непосредственно во время подсчетов бюллетеней. Не сторговались.

Нити следствия ведут в лагерь левых, которым действительно уже нечего было терять. К вящей радости националистов и властей, *"кляті каммуняки"* не смогли протолкнуть в парламент ни одного кандидата. *«Миф о левой Украине похоронен,* — который раз с августа 91-го ликует орган республиканцев *"Самостийна Украïна", — коммунистов — на свалку истории!»* Мало того, ведущие оппозиционные силы — коммунисты и социалисты — даже не смогли договориться о тактике единого левого кандидата. Претендентам от левых пришлось довольствоваться девизом всех аутсайдеров: главное не победа, а участие. Впрочем, претендентам от правых тоже.

Выборы подтвердили старую истину: в мажоритарных округах, как правило, мандаты получают беспринципные люди. Главный фактор победы здесь не идеология (все равно — правая или левая), а наличие финансового или номенклатурного ресурса.

Вероятно, отсюда тотальная апатия избирателей. В среднем по 10 округам проголосовали 22 процента избирателей. Все рекорды абсентеизма побил национально-озабоченный Львов. Здесь на один из городских участков исполнить свой гражданский долг притащились всего лишь четыре человека. Наверное, это были сами кандидаты. ■

ПО СТРАНАМ И КОНТИНЕНТАМ




Лидеры 15 стран Евросоюза встретились в Португалии, чтобы согласовать единую налоговую политику. Переговоры закончились безрезультатно. Зато участникам саммита удалось договориться о продлении введенных 4 месяца назад санкций против Австрии, в составе правительства которой входит праворадикальная Партия свободы.

Миланский суд выдвинул обвинение против лидера итальянской правоцентристской оппозиции Сильвио Берлускони, которому инкриминируют попытку подкупа правительственного чиновника. Это хорошая новость для находящихся в власти левоцентристов, поскольку партия Берлускони «Форца Италия» считалась фаворитом на предстоящих выборах.

Губернатор Кано, одной из крупнейших метрополий Нигерии, объявил о введении в городе шариатского права. Решение губернатора сразу спровоцировало религиозные столкновения по всей Нигерии. Многие жители Кано, не исповедующие ислам, начали покидать город.




Президент ФРГ Йохан Рау и фракция Свободной демократической партии (ФДП) внесли в повестку заседания бундестага принятие закона «О бойцовых собаках». Заявления политиков были сделаны по горячим следам нашумевшего инцидента в Гамбурге, где на поляне городского парка питбультерьер до смерти искусал ребенка. Рау требует, чтобы бойцовых псов в юридическом плане рассматривали как средство самозащиты. Теперь, прежде чем завести бульдога или питбуля, необходимо будет получить специальное разрешение в местном полицейском околотке.

Спикер польского сейма Мацей Плажиньский объявил дату президентских выборов в стране — 8 октября. Уже выдвинуто с десяток кандидатов на соискание мандата главы государства. Основные претенденты: от блока партий Акция выборча «Солидарность» — Марьян Кшаклевский, а от левых — нынешний президент Александр Квасьневский, Ярослав Калиновский от "Польского стронництва людова» (крестьянская партия) и независимый кандидат Лех Валенса.

Вице-премьер Испании Родриго Рато объявил о приватизации энергетической отрасли госэкономики. Это начало второй фазы экономической либерализации, в результате которой испанское правительство рассчитывает поднять ежегодный ВНП на 4,1 процента.

Выборы в Японии позволили правительственной коалиции, ведомой либерал-демократами, остаться у власти. Партии, формирующие кабинет, получили 335 из 480 депутатских мест. Улучшила свои позиции оппозиционные партии — 127 мандатов против 95 на предыдущих выборах. Кроме того, зафиксирован рекордно низкий уровень явки избирателей за всю историю послевоенных выборов — только 59 процентов.



Американский штат Техас установил национальный рекорд по количеству смертных казней. За время правления Джорджа Буша на электрический стул было отправлено 127 человек.

COME TO AFRICA

# НАШ ЧЕЛОВЕК В ТРИПОЛИ

**Олег Новиков**

**Пария Европы, официальный Минск, кажется, знает, где можно сублимировать дипломатическую энергию. В Африке! Здесь, как пишет «СБ», у нас *«огромные перспективы»*. Агентом влияния Беларуси на берегах Лимпопо призван стать лидер ливийской революции Муаммар Каддафи, которого в начале лета обхаживала делегация во главе с Уралом Латыповым и Владимиром Заметалиным.**

В 1908 году апостол футуризма Филиппо Маринетти усмирял в составе итальянского экспедиционного корпуса ливийцев, а по возвращении опубликовал роман «Мафарка-футурист». Там он вывел образ необузданного вождя бедуинов, который не рассусоливает насчет культурных и правовых предрассудков. Муаммар Каддафи вряд ли когда-нибудь читал манифесты Маринетти и Хлебникова, но вся его жизнь воплощает натуру нонконформиста и футуриста Мафарки.

Муаммар Каддафи — одногодок судьбоносной битвы для Ливии под Аль-Аламейном в 1942 году, когда англичанин Бернард Монтгомери потрепал «тигра пустыни» Роммеля. На стороне Монтгомери сражалась верблюжья кавалерия ливийцев-сенуситов, предводители которых Идриса союзники после войны произвели в монархи.

Сын простого бедуина Муаммар, подобно Михайло Ломоносову, отправился за грамотой в город. Уже за партой под влиянием арабской революции в Египте он записался в антиимпериалистический кружок. Позже, когда был курсантом военного колледжа, создал и тайную организацию по образу движения насеровских *«свободных офицеров»*. 1 сентября 1967 года рота заговорщиков захватила радиостанцию в Бенгази и объявила монархию низложенной. Король сопротивлялся как-то вяло. Уже через сутки Каддафи колесил по столице на бульдозере, снося архитектурные символы проклятого прошлого — казематы и монаршие резиденции.

Путч проспали все спецслужбы планеты. Ни о каком полковнике Каддафи ни на Лубянке, ни на берегах Потомака слыхом не слыхивали. Поэтому в первые дни после переворота все томились прогнозами, к какому блоку примкнет новый режим. В кругах победителей взяли верх антиамериканские настроения, охватившие весь исламский мир после поражения Насера в июльской войне 1967 года.



Следом в Ливии началась пертурбация в сословных отношениях и юридических нормах. Ликвидировали американские базы, изгнали итальянских колонистов, национализировали нефтяные разработки, ввели пятилетние планы, проектировали переброску вод Средиземного моря в Сахару.

В 1976 году, в соответствии с положениями «Зеленой книги» Каддафи, Ливийская республика была распущена, а вся власть формально передана народным комитетам — аналогам большевистских совдепов. Каддафи официально отказался от всех постов, но все равно остался самым главным бедуином. На политических картах мира страна стала называться *Джамахирией*.

Примерно в то же время Каддафи нанес визит в Москву. Хотя его облобызал лично сенильный генсек Брежнев, ливийский футурист со своим *«поиском самобытного пути»* был в Кремле не понят.

Например, проблема арабского единства. Как наркоман жаждет дозу, так Муаммару хотелось интегрироваться с арабскими соседями: сначала с Алжиром и Тунисом, затем с Египтом. Когда Египет отверг интеграционные прожекты Каддафи, последний организовал марш протеста на Каир, приведший к пограничному инциденту. В другой раз Каддафи выставил свою кандидатуру на пост президента Италии (юридически ливийцы как бывшие граждане колонии Рима имеют право на определенных условиях получить итальянское гражданство). *«Я раслущу итальянское государство и установлю Джамахирию»,* — злобно обещал кандидат. Итальянцы веселились.

Были дела и посерьезней. На территории Ливии в разное время базировались 19 лагерей, где экстремисты со всего мира учились премудрости подрывной деятельности. Полученные навыки были пущены в ход в 1972 году в Мюнхене, в 1983 в Брайтоне при покушении ИРА на Тэтчер и, наконец, в 1986 при взрыве гражданского «Боинга» над Локкерби (Шотландия). Ежегодно Ливия отпускала 800 000 долларов на поддержку угнетенных всех мастей — от ИРА до АНК. Во сколько обошлись войны против Египта (1977), поддержка режима Амина в Уганде (1979), интервенция в Чаде (1980), трудно подчитать.

Американские медиа-холдинги рисовали Каддафи как реинкарнацию Годзиллы. В рейгановском окружении разрабатывались планы устранения ливийского лидера.

Пока на дворе стояли времена холодной войны, Ливия умело играла на геополитических противоречиях СССР и Запада. Как сказал Горбачев в 1986 году по следам американских бомбардировок Триполи, *«мы не позволим никому поставить миролюбивую Джамахирию на колени».*

После коллапса СССР на Ливию с согласия российского МИДа были наложены экономические санкции. Муаммару даже пришлось пожертвовать двумя сородичами, причастными к подготовке теракта над Локкерби. Ливийцев передали Великобритании и недавно судили.

Феномен стабильности режима Каддафи заключается в том, что Ливия — один из крупнейших в мире экспортеров нефти, что позволяет режиму обеспечивать сносный уровень жизни пяти миллионов соплеменников.

В мае 2000 санкции с Триполи сняли, что сразу же вызвало повсеместный бум интереса к ливийской экономике. Номенклатура продуктов и товаров, которые поступают в Ливию за счет продажи нефти, насчитывает тысячи наименований: от тракторов и продовольствия до чая и мыла. С этой точки зрения желание мининдела Латыпова экономически закрепиться в Ливии логично.

Проблема в том, что у наших политиков наблюдается соблазн лоббировать продвижение белорусских изделий на ливийский рынок за счет антизападной риторики. Между тем, «The Economist» пишет: *«Его [Каддафи] дипломатические проблемы отнюдь не закончились. Америка, Франция, Великобритания и Германия продолжают опасаться ливийского терроризма. Америка не собирается отменять режим старых санкций...».* Последние события подтверждают прогнозы английского еженедельника. В западной прессе прошла информация, что «Объединенный революционный фронт Сьерра-Леоне», сражающийся с голубыми касками ООН, финансируется Каддафи.

В отношениях с Триполи чиновникам из белорусского МИДа лучше не выходить за рамки экономического сотрудничества, как это делают старые экономические партнеры Триполи — Италия, Турция и Индия. Минск уже прослыл побратимом Багдада. Вот будет номер, если нам еще пришьют дружбу с пособниками убийц миротворцев ООН. ■

ТЕМА НОМЕРА

# ВЫБОРЫ: ПРОБЛЕМЫ И РЕШЕНИЯ

Окончание. Начало на с. 1

Таким образом, весьма сложная и острая для оппозиции дилемма — участвовать или нет в предстоящих выборах, решена в жесткой привязке к условиям. Очевидно, что схожую резолюцию скорей всего примет и Конгресс демократических сил, намеченный на 2 июля. Следовательно, можно считать предопределенным и однозначный отказ партий от участия в выборах, если пакет условий не будет в тех или иных пропорциях выполнен.

Властям не удалось расколоть коалицию оппозиционных партий, подтолкнув хотя бы одну из них к решению об участии вне этой жесткой связки. Заявление ЛДП о выходе из Консультативного совета и участии как в парламентских, так и президентских ( Гайдукевич — спарринг-партнер для Лукашенко) выборах ничего здесь не меняет. Давно ожидаемая новость. Как случайно (или по некоему расчету) эта партия примкнула к оппозиции, так закономерно ее и покинула.

Не удалось властям внести раскол в демократическую коалицию, а заодно и разлад в ее взаимоотношения с западными союзниками, подтолкнув партии к противоположному решению: отказу от участия, снова же вне условий. В данном случае ничего существенно не меняет позиция уже КХП — БНФ, выступающей за неучастие в выборах. Из Коалиционного совета соратники Зенона Позняка не вышли, ограничив, правда, свою работу в нем. Их голос по выборным проблемам при голосовании не учитывается. Так девятка партий обрела свой первоначальный на момент создания вид семерки.

Более того, правительственная сторона своей негибкой тактикой, пронизанной паническими страхами потерять власть, поставила себя перед жесткой альтернативой: либо в кратчайший срок идти на реальные уступки, либо нет, рискуя непризнанием законности выборов со всеми вытекающими отсюда последствиями. Впрочем, оппозиция предлагает властям еще один компромиссный вариант: отодвинуть дату проведения выборов на более поздний срок и за круглым столом переговоров спокойно обсудить все проблемы выхода из конституционного кризиса.

Вряд ли это предложение будет принято, скорее, от властей можно ожидать уступок, и даже значимых, но под самый финиш, с тем чтобы в цейтноте оппозиция не смогла ими воспользоваться. Вполне предсказуем и последний рубеж уступок — это Ценризбирком: его состав, реальный контроль наблюдателей за его работой. Именно на этом рубеже, как показал референдум 1996 года, власти могут выиграть голосование, даже проиграв выборы на всех предыдущих рубежах.

До настоящего момента выборная тактика оппозиции по большому счету была безошибочной. Мяч — на правительственной стороне. Режим как никогда нуждается в легитимизации через выборы. И, следовательно, он предельно заинтересован, чтобы в них приняли участие (и, разумеется, проиграли) хотя бы одна, лучше две-три партии с безупречно оппозиционной репутацией. Именно здесь для демократического альянса таится опасный соблазн отказаться от участия в выборах прежде времени и вне жесткой связи с условиями. Вторая опасность подстерегает демократов при определении высоты своих требований по каждому из пунктов пакета условий. Третья — при расчете возможных последствий своего решения, как об участии, так и неучастии в выборах. Тем более что принимать решение, несмотря на единство демблока, каждая партия будет самостоятельно, руководствуясь, естественно, собственным пониманием ситуации и своих интересов.

Очевидно, что решение дилеммы участия-неучастия требует от партий предельно корректного и тщательного предварительного анализа с выходом на точно оговоренные обязательства. Равно как и коррекции во времени и по существу с решением международных институтов о признании или непризнании предстоящих выборов. Учесть надлежит массу трудно просматриваемых сегодня факторов. Тем более велика ответственность демократических сил. Без права на ошибки, которые уже обернулись для Беларуси десятью годами стагнации, пятью годами диктатуры. ■

ДЫЯЛЁГ

# АНУЧАЙ ПА ТВАРЫ

Тацьцяна Папова

**22 чэрвеня Уладзімер Гудзееў абвясьціў тэрміновы сход першае экспэртнае групы дыялёгу грамадзка-палітычных сіл. Большасьць адмыслоўцаў не адгукнуліся на запрашэньні свайго старшыні. Яны палічылі немэтазгодным кідаць усе справы з-за паседжаньня, якое ўсё адно нічога ня зьменіць. Папраўкі да выбарчага кодэксу — плён дзейнасьці групы №1 — ўжо былі разгледжаныя ў адміністрацыі прэзыдэнта, абмеркаваныя на радзе Палаты прадстаўнікоў, прапанаваныя да ўвагі завітаўшай у Менск эўрапарляманцкай Тройкі. Нават пасьля ўсяго гэтага сярод дыялёжнікаў засталіся шчыра ўпэўненыя ў нясканчанасьці сваёй місіі.**

Да апошняга моманту яны верылі, што ўладам насамрэч цікавыя іх меркаваньні. Інакш бы іх не запрасілі да размовы Але раптам на вочы Гудзееву трапіў сьпіс паправак, які прапанаваў Палаце прадстаўнікоў Лукашэнка. У дакумэнце зьмясьцілі толькі шэсьць прапаноў. З шаснаццаці! Пры гэтым самых нязначных!

Гэта сталася апошняй кропляй. Дэлегаты пачалі ўзгадваць ранейшыя крыўды 30 траўня Лукашэнка дзякаваў ім за арганізаваную сустрэчу. Насамрэч сцэнар дзеі ў Палацы рэспублікі быў распрацаваны ягонай адміністрацыяй, а не сакратарыятам. На наступным пленарным паседжаньні рэзалюцыі групы Фядуты былі падмененыя пастановай невядомага паходжаньня, якую сам экспэрт па пытаньнях СМІ да апошняга моманту й ня бачыў. Гудзееўскія папраўкі ўхвалілі больш як сотня грамадзкіх арганізацый, перад тым, як яны трапілі ў адміністрацыю прэзыдэнта, шматлікія прадстаўнікі ўлад забракавалі толькі тры пункты ў праэкце. Адразу выкрэсьлілі магчымасьць датэрміновага галасаваньня, не пагадзіліся зьменшыць норму да 25 адсоткаў у першым туры, павялічылі час падачы заяўкі на галасаваньне па мейсцы знаходжаньня й амаль скасавалі абмежаваньні для тых, хто зьбіраецца скарыстацца гэтым правам.

У адміністрацыі прэзыдэнта дакумэнт скарацілі яшчэ на некалькі пунктаў. Прапанова экспэртаў аб тым, каб ня меньш як траціну ад складу камісіі складалі чальцы партый ды грамадзкіх аб'яднаньняў, адхілена. Цяпер назіральнікі ня змогуць атрымаць копію пратакола аб выніках галасаваньня, падпісаную выбарчай камісіяй. Адылі, іх камісіі пакінулі права выставіць назіральніка з участка. Ня дзіва, што на такіх умовах АБСЭшнікі адмаўляюцца дасылаць сваіх адмыслоўцаў, каб тыя сачылі за выбарамі.

Улады вырашылі *забіць адным стрэлам двух зайцоў*: пагуляць у дэмакратыю й паказаць сусьветнай супольнасьці ўсьцешаны гэ*тай гульнёй* народ. Аднак беларускія ўлады нават пры ўмове, што ўсё ідзе паводле пляну, сваю справу прафэсыйна выканаць няздольныя. Пасьпяшаліся прыняць касмэтычныя папраўкі, не паклапаціліся пераканаць спадароў Севярына й Вірсму ў сваёй гатоўнасьці рухацца насустрач Эўропе (гэта добра прасочваецца ў заяве эўрапарлямантараў). І дзе іх панабіралі такіх, што нават удзельнікаў "Дыялёгу" супакоіць ня здолелі. Цяпер цікуй, ня сёньня дык заўтра яны пойдуць супраць зарганізаваўшага іх Лукашэнкі.

Экспэрты ясна ўсьведамілі, што іх двойчы "*ляснулі анучай па твары*". Праглынуць крыўду яны не пажадалі. Цяпер яны заварушыліся. Гудзееў прыдумаў перафармуляваць непрынятыя папраўкі й накіраваць іх у адміністрацыю прэзыдэнта й Цэнтральную выбарчую камісію як пералік дадатковых прапаноў "Дыялегу". Ен разумее, што часу амаль не засталося, а верагоднасьць посьпеху такога мерапрыемства складае 1–2 адсоткі. Але падсьвядомае жаданьне ачысьціць сваё сумленьне не дазваляе яму скласьці рукі. У процівагу яму прадстаўнікі ДСПС ды Патрыятычнае партыі абвясьцілі аб сваім нежаданьні ўдзельнічаць у сумнеўных гульнях і накіраваліся да дзьвярэй.

Напрыканцы свайго паседжаньня экспэрты заняліся падрыхтоўкай ноты пратэсту супраць абыякавасьці ў дачыненьні да іх грамадзкай пазыцыі. Рашучасьці пакрыўджаных не было межаў. Вырашылі распісаць кожны факт зьнявагі свайго гонару як дасьведчаныя юрысты, са спасылкамі на канстытуцыю й якія магчыма кодэксы. Нехта прапанаваў запрасіць Посахава, каб той асабіста патлумачыў, чаму ўлады пагарджаюць іх працай. Апазыцыю ўсеагульнаму энтузыязму складаў прадстаўнік Беларускай асацыяцыі пэдагогаў. Ён ня мог ськеміць, хто ён такі, каб перад ім "*мусілі расшаркваца*". Пэўне, звыкся за гады сваёй настаўніцкай практыкі са стэрыатыпам непарушнасьці грамадзкай іерархіі, дзе чалавек ёсьць толькі выканаўцам загадаў зьверху. ■

ВІЗЫТ

# НАДЗЕЯ ПАМІРАЕ АПОШНЯЙ

Тацьцяна Папова

**З другім за гэты год візытам наведала Менск эўрапарляманцкая Тройка. Праўда, тройкай яе й не назавеш, бо у складзе дэлегацыі адсутнічаў прадстаўнік Парляманцкай асамблеі Рады Эўропы Тэрры Дэвіс. Такім чынам, Тройку прадстаўлялі Адрыян Севярын — старшыня працоўнай групы па Беларусі Парляманцкай асамблеі АБСЭ — і Ян Марынус Вірсма — кіраўнік падкамітэту па Беларусі Эўрапарляманту.**

На працягу трох дзён яны сустракаліся з уладамі (улучна да Ярмошына), прадстаўнікамі апазыцыі (у тым ліку й з Чыгіром, Шчукіным, Статкевічам, а таксама сем'ямі тых, каго перасьледуюць па палітычных матывах), са - шматлікімі дзяржаўнымі й праваабарончымі арганізацыямі, плян свайго кантактаваньня яны ўвасобілі ў пастанове, якую й прадставілі журналістам на прэс-канфэрэнцыі 22 чэрвеня.

На жаль, парлямантарыям давялося пераканацца, што беларуская рэчаіснасьць ня здолела знайсьці прымяненьня іхным папярэднім парадам й рэкамэндацыям. Улады й апазыцыя дагэтуль не знайшлі кампрамісу для правядзеньня ўвосень гэтага году дэмакратычных парляманцкіх выбараў. Па іхным меркаваньні, "Дыялёг", ініцыяваны Лукашэнкам, ня можа замяніць перамоўнага працэсу. Тыя папраўкі да выбарчага кодэксу, на якія ўсё ж пагадзіўся кіраўнік дзяржавы, няздольныя забясьпечыць празрыстасьць выбарчага працэсу й стварыць роўныя ўмовы прадстаўніцтва ў выбарчых камісіях.

Замежнікі таксама не задаволеныя негарантаванасьцю свабоднага ў той ці іншай ступені доступу да СМІ ўсіх палітычных партый. Яны ня ўпэўненыя, што гэты доступ будзе забясьпечаны ў перадвыбарны перыяд. З дня іх мінулага візыту не было зроблена нічога для пашырэньня функцый парляманту. Гэта абсалютнае ігнараваньне іх рэкамэндацый.

Іх патрабаваньне "*мірнага пэрыяду*" падчас падрыхтоўкі да выбараў таксама засталося безувважным. Больш таго, улады пасьпелі асудзіць Чыгіра, Шчукіна й Статкевіча і дагэтуль не далі тлумачэньня зьнікненьню вядомых палітычных дзеячаў. Такое абыякавае стаўленьне беларускіх уладаў да аўтарытэту міжнародных арганізацый можа выклікаць толькі разгубленасьць.

Дэлегацыя абяцала параіць сваім інстытуцыям даслаць назіральнікаў за выбарчай кампаніяй і самімі восеньскімі выбарамі ў выпадку хаця б якога-кольвечы прагрэсу ў выкананьні ўладамі й апазыцыяй патрабаваньняў Тройкі. Калі Беларусі патрэбна прызнаньне дэмакратычнасьці яе ўнутранае палітыкі сусьветнай супольнасьцю, яна яшчэ мае час для выкананьня ўмоў Эўрапарляманту. Дэлегаты нагадалі, што канчатковае рашэньне па беларускім пытаньні іх арганізацыямі яшчэ не прынята.

Прадстаўнікі Тройкі заявілі, што ўплываць на тэрмін правядзеньня выбараў і паводзіны ўладаў яны ня могуць. Апазыцыя не кіруецца іхнымі загадамі таксама, але было б някепска, калі б яе дзеяньні супадалі з жаданьнямі эўрапейскай грамадзкасьці. Сваё ўражаньне ад наведваньня Беларусі Адрыян Севярын ахарактарызаваў галяндскай прымаўкай: "*Цяпер мы знаходзімся паміж надзеяй і страхам*".

Напрыканцы сустрэчы спадары Вірсма й Севярын, а разам зь імі й Вік выказалі спадзяваньне, што Беларусь здолее нармалізаваць адносіны з Эўрапейскім саюзам ды іншымі эўрапейскімі арганізацыямі, што й паспрыяе міру й спакою ва ўсей Эўропе. ■

СОЦИОЛОГИЯ

# БЕЛОРУССКИЙ ОБРАЗ ВЛАСТИ

Алексей Маковец

**Тема парламентских и президентских выборов овладевает умами и языками. Президентской клике и белорусской оппозиции предстоит традиционная борьба за электоральное болото. Зондаж народного мнения показывает исходные идеологические условия в предвыборной Беларуси.**

## ИДЕАЛЬНЫЙ ПРЕЗИДЕНТ

Изучая эталонные представления белорусов о президентской власти, лаборатория «Новак» проводила анкетирование в Минске и областях, предлагая респондентам нарисовать образ идеального президента. Отвечавшие выбирали характеристики сего идеального субъекта, приведенные в следующей таблице.

Так было установлено, что идеальный президент силен, законен и порядочен; экономический реформатор, способен улучшить жизнь людей, создав условия для заработка; страж суверенитета; мастер политических компромиссов.

| Идеальный президент — это тот, кто... | % |
|---|---|
| достаточно силен, чтобы поддержать закон и порядок | 96,1 |
| может вернуть страну обратно к социализму | 29,9 |
| может привести страну к капитализму | 25,3 |
| проведет экономические реформы | 87,7 |
| может улучшить жизнь людей | 98,2 |
| даст людям своим трудом обеспечивать себя и семью | 98,0 |
| может защитить национальный суверенитет | 94,9 |
| может пойти на компромисс с политическими оппонентами ради блага народа | 88,9 |

## ИДЕАЛЬНЫЙ ПРЕЦЕДЕНТ

Мечты мечтами, но у страны уже есть один президент, хотя и с истекшим сроком хранения. Для прояснения его электоральных перспектив респондентам предложили оценить Лукашенко на предмет совпадения с идеалом.

Сравнение таблиц дает любопытные выводы. Около трети наших соотечественников все еще верит в социализм и ждет его от президента.

Примерно четверть респондентов, наоборот, видит в идеальном президенте рыночника-капиталиста. но и десяти процентов не наберется, чтоб ставили рядом капитализм и Лукашенко.

Как ни странно, почти две трети граждан верят в способность нынешнего президента отстоять суверенитет, хотя сам этот суверенитет фактически давно утрачен. Две трети искренне верят, что главная забота президента — народное благо, и ради него белорусский лидер пойдет на все, даже на уступки своим оппонентам. Наивные какие!

Двое из трех белорусов всерьез считают, что Лукашенко достаточно *силен*, чтобы *поддерживать* закон и порядок. Так что базовые представления двух третей населения о законности и порядке оставляют желать много лучшего.

| В какой степени, на ваш взгляд, верно, что президент Лукашенко... | % |
|---|---|
| достаточно силен, чтобы поддержать закон и порядок | 74,5 |
| может вернуть страну обратно к социализму | 33,9 |
| может привести страну к капитализму | 9,2 |
| проведет экономические реформы | 54,5 |
| может улучшить жизнь людей | 51,7 |
| даст людям своим трудом обеспечивать себя и семью | 49,8 |
| может защитить национальный суверенитет | 65,2 |
| может пойти на компромисс с политическими оппонентами ради блага народа | 70,5 |

## ОБРАЗ ВЛАСТИ

Кое-какой свет на парадоксальные результаты, полученные «Новак», проливает опрос Независимого института социально-экономических и политических исследований, посвященный доверию белорусов белорусским институтам.

Вера в доброго царя на фоне злых бояр упорно живуча. Институты, подпорки авторитарной власти, имеют традиционно более низкии рейтинг, чем ее персонифицированный носитель. Но процент неверующих в отца-президента хоть и меньше, но уже приближается к проценту верующих. И по мере наших экономических успехов этот процент будет расти за счет группы затруднившихся с ответом.

В большинстве случаев самый

АРХИВ

# 1992 — ГОД ПЕРВЫХ РАЗОЧАРОВАНИЙ

**Игорь Воляник, Александр Кавальский**

**Зверьё моё.** В начале года вместе с зарплатой белорусы получают купоны на сумму от 60 до 100 процентов. Таким образом предполагается защитить наш рынок от рублевых потоков из бывших союзных республик. Мало того, что деньги уже не помещаются в кошельке, так еще приходится носить и целые «простыни» купонов. Летом вместо не оправдавших себя купонов вводятся *«расчетные билеты»*, а попросту — белорусские *«зайчики»*. Курс *«зайца»* к *«деревянному»* — 1:10. Сразу запустили купюры номиналом 50 копеек (белочка), 1 рубль (заяц), 3 (бобры), 5 (волки), 10 (рыси), 25 (лось), 50 (медведь), 100 (зубр). В конце года вводятся купюры в 200, 500 и 1000 рублей (площади Привокзальная и Победы, здание Академии наук соответственно).

По сведениям прессы, в Германии были отпечатаны и полноценные деньги — белорусские рубли (а не талеры, как предлагала оппозиция) с портретами деятелей нашей культуры, но, вероятно, из-за планируемой В. Кебичем рублевой зоны их так и не ввели. В Борисове открывают фабрику Гознака Беларуси, которая должна была печатать ценные бумаги и другую продукцию повышенной защищенности.

**Служу Беларуси!** Беларусь сталкивается с необходимостью немедленно ликвидировать двоевластие в армии. 6 января дислоцированные на территории Беларуси части получили шифротелеграмму из Москвы с указанием привести весь личный состав к *«воинской присяге, утвержденной президентом России Ельциным Б.Н.»* Этот документ даже вызвал скандал в белорусском парламенте. Только в мае выходит постановление Совмина о переподчинении Министерству обороны РБ воинских частей, ранее входивших в состав БВО. Исключение составили части, вошедшие в состав Стратегических сил СНГ. На военной технике появляется бело-красно-белая символика с аббревиатурой МО РБ.

Разрабатывается программа поэтапного перехода армии на использование во всей войсковой деятельности белорусского языка, выпускаются учебные пособия по белорусскому языку и истории. В конце года парламент обсуждает военную доктрину и корпус законов, регулирующих армейскую жизнь. Не проходят предложения о введении званий вахмистра, поручика и т.д. Зато военными совместно с парламентской комиссией по сохранению культурного наследия и художниками-модельерами разрабатывается несколько вариантов формы. Полк почетного караула предполагалось одеть с учетом исторического прошлого, то есть традиций армии ВКЛ.

**Интрига года.** В феврале оппозиция БНФ выступила с инициативой проведения референдума о доверии Верховному Совету. Замысел был верный: распустить старый, избранный еще при коммунистах парламент и на волне новых настроений провести выборы, расчистив путь для реформистских сил. Некомпетентность, косность и консерватизм ВС были очевидны не только демократам. По данным соцопроса, проведенного АН РБ, 42 процента респондентов поддерживало идею проведения референдума, еще 23 процента однозначно не определились, и только 35 были против. Вопрос в подписных листах звучал так: *«Согласны ли вы с необходимостью роспуска Верховного Совета и проведением осенью выборов по закону, проект которого разработала оппозиция БНФ?»*

Сама формулировка вызвала нарекания, а тут еще и проект закона предусматривал выборы по пропорционально-мажоритарной системе: 80 депутатов предполагалось избрать по одномандатным округам, а 80 — по партийным спискам. Оппоненты указывали на слабость и неразвитость белорусской партийной системы, но на самом деле причина куда банальней — коммунистическая партия была все еще запрещена. 13 апреля 446 тысяч 601 подпись были переданы в Центризбирком, который забраковал 58 254 подписи. Тем не менее, осталось больше 350 тысяч, необходимых по закону. Свое постановление Центризбирком передал в Верховный Совет, который должен был определить дату народного плебисцита, но, не исчерпав повестки сессии, парламент вдруг ушел на почти полугодичные каникулы.

**В тюрьму – домой.** Правительство России решило освободиться от заключенных других стран, которые бесплатно строили, валили лес на бескрайних просторах Сибири, Дальнего Востока и в других не столь отдаленных местах. В Беларусь предполагалось вернуть около пяти тысяч человек, осужденных нашими судами, но отбывающих наказание в России. Удалось договориться с Украиной: наши посидят там, а их ребята — у нас, всего по двести человек с каждой стороны. Для решения проблемы размещения *братков-белорусов* Совмин постановил начать строительство нового СИЗО в Лиде, кроме этого были перепрофилированы ЛТП в Могилеве и Мозыре.

**БСДГ.** С двумя заглохшими инициативами выступили социал-демократы. Первая касалась создания широкого блока демсил *«Новая Беларусь»*. Идея была нервно воспринята БНФ как противовес собственной затеи с референдумом. Авторство второй инициативы принадлежало лидеру *Беларускага згуртаваньня вайскоўцаў* (патриотическому объединению белорусских офицеров, созданному в дни августовского путча) Николаю Статкевичу. Он предложил подписать антикризисное соглашение всем силам, заинтересованным в сохранении независимости страны. В антикризисный комитет вошли представители большинства партий (БНФ, БСДГ, АДПБ, НДПБ, Крестьянская партия и др.). Исполнительный совет возглавил Статкевич, а председателем комитета стал Вячеслав Кебич. ■




НАВАГРУДАК 2000

# ФЭСТ СЯРЭДНЯВЕЧНАЕ КУЛЬТУРЫ



**Троян Спаткі**

**24–25-га чэрвеня ў Навагрудку адбыўся фэстываль сярэднявечнае культуры «Навагрудак 2000». Культурнае жыцьцё Беларусі ўзбагацілася яшчэ адным унікальным грандыёзным відовішчам. Больш за 500 удзельнікаў і каля 300 рыцараў з прыблізна 10 краінаў сьвету вярнулі старажытнаму мястэчку ў Гарадзенскае вобласьці атмасфэру 14-га стагодзьдзя.**



Вольны рыцар Антуан (Антон Піменаў) быў прызначаны панам кашталянам (камэндантам) рыцарскага стану, які быў пабудаваны на беразе возера Літоўка. Фэстываль распачаўся 24-га чэрвеня з пастановачных боек, выступу музыкальных гуртоў і выканаўцаў, тэатральных мініятур менскіх актораў з «Вольнае сцэны», рыцарскіх і воінскіх гульняў, атракцыёнаў, відовішчнага коннага турніру, дзённых і начных «бугуртаў» (групавых схваткаў). Канцэрт музыкі, стылізаванае пад сярэднявечча, скончыў першы дзень фэсту.

25-га чэрвеня мясцовыя жыхары й госьці з Латвіі, Летувы, Эстоніі, Расеі, Польшчы, Беларусі й іншых краінаў пабачылі інсцэніроўку падзеяў 1314-га году, калі вялікае войска крыжаносцаў на чале з магістрам Тэўтонскага ордэну Гэнрыхам фон Плоцкэ асадзіла Навагрудак і пачало яго штурмаваць з дапамогаю камнямётаў.

На фэстываль было запрошана больш за 40 рыцарскіх клюбаў, якія займаюцца рэканструкцыяй гістарычнага касьцюма, узбраеньня й быта сярэднявечча. Беларусь рэпрэзэнтавалі рыцары зь Менску (каля 10 клюбаў), Ліды, Магілёву, Берасьця, Пінску, Гародні, Полацку, Бабруйску, Баранавічаў, Гомелю, Рэчыцы, Наваполацку. Расея накіравала ў легендарны беларускі горад рыцараў з Масквы, Санкт-Пецярбургу, Яльцу, Котласу, Саратаву й іншых мястэчак. Рыцары з латвійскіх клюбаў «Livonensis» і «Senas Vides Darbnica», зь летувіскага «Vyciai» і польскага «Snekkar», а таксама музычныя й танцавальныя гурты з Эстоніі былі сярод тых, хто браў актыўны ўдзел у фэстывалі, што адбыўся ў Навагрудзкім замку.

Для стварэньня больш непасрэднае атмасфэры сярэднявечча арганізатарамі фэсту на Замкавае гары былі дабудаваныя разбураная ў 17-м стагодзьдзі вежа «Дазорная» і частка замкавае сьцяны, якая злучыла вежу «Дазорную» з руінамі вежаў «Шчытоўка» і «Касьцельная». Быў атрыманы дазвол ад Камітэту па ахове гісторыка-культурнае спадчыны Міністэрства культуры Беларусі на ўзьвядзеньне часовых драўляных канструкцыяў на Замкавае гары ў Навагрудку. Крыжакі-тэўтоны пад час штурму абстрэльвалі з камнямётаў ліцьвінаў — грамадзянаў старажытнабеларускае дзяржавы Вялікага княства Літоўскага, Рускага й Жамойцкага, якія схаваліся ў замку, а таксама спрабавалі ўзьняцца па адхону Замкавае гары на 20-мэтровую вышыню. І хаця рыцары Тэўтонскага ордэну былі поўнасьцю разьбіты, што адлавядае сапраўдным падзеям 1314-га году, мірнае заканчэньне бойкі ўсё ж такі было знойдзена. Пасьля штурму адзін з удзельнікаў быў прызначаны ў рыцары.

Зь 1-га сакавіка, у першы дзень старажытнага Новага году крывічоў, пачаў сваю працу афіцыйны сайт фэстывалю сярэднявечнае культуры "Навагрудак 2000". Кожны дзень вэб-старонка адлюстроўвала кожны крок фэсту й забясьпечвала дакладную інфармацыю адносна сьвяткаваньня й яго ўдзельнікаў. Усё, што датычыцца першае сталіцы Вялікага княства Літоўскага, можна знайсьці на: www.festival.ot.infonet.by; www.navahrudak2000.kryvia.net альбо www.festival.kryvia.net. Дарэчы, наступны фэстываль рыцарскіх клюбаў пройдзе 8-га ліпеня ў Менску. ■

ПОСТАЦІ

# АЛЯКСАНДАР УЛАСАЎ

**Алег Гардзіенка**

*Я належу ўжо да старэйшага пакаленьня*
*й барабаню пра беларусаў гадоў 50.*
*Усе нашыя павадыры на беларускай справе кар'еры*
*не зрабілі. Жыцьцё іх горкае, мучаніцкае,*
*і йдуць яны не па кветках, а па калючках.*

**Гэта словы Аляксандра Ўласава, напісаныя ў лісьце да Адама Станкевіча. І сёньняшняя гаворка пра чалавека, якога рэдка ўспаміналі ў савецкія часы й нават у 90-я гады. Ягонае імя замоўчвалася, хаця ён зрабіў дастаткова шмат для нацыянальнага адраджэньня. Жыцьцё гэтага чалавека — паказальны прыклад ахвярнай працы на карысьць Бацькаўшчыны, нястомнай барацьбы сапраўднага інтэлігента, для якога Беларусь была перад усім. А чаму менавіта 1906 год? Усё проста — у гэтым годзе Аляксандар Уласаў узначаліў найвялікшую газэту стагодзьдзя — "*Нашу Ніву*".**

Нарадзіўся Аляксандар Мікітавіч Уласаў 16 жніўня 1874 года у вялікай сям'і паштовага служачага. Юнак быў здольны, але гультаяваты, таму вучыўся з горам папалам. Пасьля сканчэньня рэальнага вучылішча працягваў адукацыю ў Рыскай палітэхніцы. Навучаньне ўскладнялася ўдзелам у рэвалюцыйным руху, які тады пачаў ахопліваць Расею. У 1905 годзе Уласаў уступае ў Беларускую сацыялістычную Грамаду, у тым жа годзе бярэ ўдзел у рэвалюцыйных падзеях: арганізоўвае мітынг у Радашковічах, за што перасьледуецца царскімі ўладамі.

У 1906 годзе ён разам з братамі Луцкевічамі засноўвае легендарную "*Нашу Ніву*" і да 1912-га рэдагуе й выдае яе. Выданьне такой газэты, якая, зразумела, ня мела ніякай дзяржаўнай падтрымкі, вымагала значных выдаткаў. Грошы напачатку было цяжка знайсьці, таму нярэдка Аляксандар Уласаў укладаў у выданьне газэты прыбыткі, атрымання з фальварку Мігаўка ля Радашковічаў, што перайшоў яму па спадчыне.

*З фальваркам зьвязана мноства цікавых і анэкдатычных гісторый, якія заўсёды акалялі Ўласава. Ён, маючы атлетычную фігуру і высокі рост, любіў хадзіць па фальваркаўскім садзе ў адных трусох, наводзячы жах на наведвальнікаў такім выглядам. (Такія норавы напачатку стагодзьдзя!) Знаёмыя ўспаміналі, што ў доме Аляксандра Мікітавіча заўсёды было шмат гасьцей, якіх ён прымушаў займацца на спартовых трэнажорах, што стаялі ў садзе. Пасьля ён рассаджваў гасьцей за сталом, частаваў іх, а калі госьці пачыналі са смакам есьці, хадзіў вакол іх і прыгаворваў "А Божа ж мой, ня ешце гэтак шмат, гэта ж вы мяне зруйнуеце!" Менавіта пачуцьцё гумару дапамагала Аляксандру Мікітавічу з усьмешкай ставіцца да розных драматычных жыцьцёвых сытуацый.*

У 1912 годзе Уласаў пакідае мейсца рэдактара "*Нашай Нівы*" і пачынае рэдагаваньне часопісу для сялянаў "*Саха*", што выходзіў у Менску. Калі Аляксандра Мікітавіча спыталі, што трэба для заснаваньня новага пэрыядычнага выданьня, ён адказаў: «*Пакой, колькі скрынак замест крэслаў, прымус, імбрык і паболей энтузіязму*». А з 1914-га Уласаў, карыстаючыся гэтай формулай, распачаў выданьне часопісу для моладзі "*Лучынка*".

Пачатак Першай сусьветнай вайны пацягнуў за сабой усеагульную мабілізацыю, быў змабілізаваны на фронт і Ўласаў. Пасьля заканчэньня вайны ён вярнуўся ў родную Мігаўку, якая адыйшла да Польшчы. Бурная даваенная грамадзкая дзейнасьць прывяла да таго, што Уласаў быў абраны ў польскі сэнат, дзе з высокай трыбуны бараніў правы беларускага народу. Аляксандар Мікітавіч не адносіў сябе ні да камуністаў, ні да хрысьціянскіх дэмакратаў, але яму давяралі ўсе, бо такому грамадзкаму вопыту можна было толькі пазайздросьціць.

Менавіта ён арганізаваў беларускую гімназію ў Радашковічах, у якую ўклаў нямала ўласных сродкаў і здароўя. Гімназія выхоўвала сьвядомую беларускую моладзь, якая працягвала сваё навучаньне ў вышэйшых навучальных установах Чэхаславакіі, Францыі, Ангельшчыны. Дарэчы, падчас свайго сэнатарства ў Варшаве Ўласаў нямала наслухаўся пра тагачасныя пэдагагічныя мэтодыкі і стварыў у Радашковічах інтэрнат, дзе жылі немясцовыя студэнты.

Энтузіязм Аляксандра Ўласава значна зьнізіўся пасьля таго, як польскія ўлады зачынілі гімназію. Але ён не кідаў працы. У Мігаўцы і Радашковічах з дапамогай моладзі ставіў спэктаклі, праводзіў калядныя ялінкі. Праводзіліся нават конкурсы на самую прыгожую дзяўчыну. Стварыў ён у Радашковічах і суполку Таварыства беларускай школы. Але ўсе гэтыя пачынаньні заўсёды сутыкаліся з процідзеяньнем польскіх шавіністычных уладаў. Напэўна таму Аляксандар Мікітавіч прыхільна сустрэў у верасьні 1939-га чырвоных братоў з усходу. Ён спадзяваўся, што ягоная амаль саракагадовая праца на карысьць Беларусі будзе нарэшце адзьдзячаная.

У кастрычніку 1939 года ён выбіраецца ў Маладэчна, каб уладкавацца на працу ў мясцовую газэту. Фактычна яго ўжо ўзялі на працу, аднак трэба было падпісаць нейкую паперу ў НКВД. Сьледчы, да якога прыйшоў Аляксандар Мікітавіч, прапанаваў Уласаву напісаць аўтабіяграфію, той згадзіўся і апісаў уласны ўдзел у беларускім незалежніцкім руху на 17 старонках. Гэтых 17 старонак аказалася дастатковым для арышту. Памёр Аляксандар Мікітавіч Уласаў 11 сакавіка 1941 года па дарозе ў канцэнтрацыйны лягер на станцыі Марыінск Навасібірскай вобласьці. Ягоная жонка Аляксандра Паўлаўна прыгадвала, што калі яна прывозіла яшчэ ў Маладэчанскую турму перадачы мужу, то пытала ў турэмшчыка: "*Ці здаровы муж?*" Той перапытваў: "*Уласаў? Такі вялікі, вусаты? Ды зь ягоных жартаў рагоча ўся камэра!*" ■

ТАНЦЫ

# ПОБЕДИТЕЛИ В СОПОТЕ

**Алиса Ланге**

**В июне нынешнего года белорусская танцевальная пара Андрей Бущик и Валерия Бушуева заняли первое место в открытом международном рейтинговом турнире в польском городе Сопот во взрослой любительской категории по латиноамериканской программе.**

Для занятий танцами не строят дворцов, о них мало говорят в прессе, на них не возлагают надежд. Но белорусские танцоры целенаправленно тренируются и не без успеха выступают в международных турнирах. Отчасти благодаря тому, что сохранились студии для детей при домах культуры, работают танцевальные клубы в школах. Конечно, есть сложности с арендой залов, с финансами, но дети танцуют, а значит, есть из кого выбрать яркие таланты. Только в минском клубе «Пируэт», возглавляемом Михаилом Ивановичем и Татьяной Владиславовной Павлиновыми, за который, кстати, выступают Андрей и Валерия, тренируется около 300 человек.

Андрей начал танцевать в 14 лет. Считается, это поздно, но у него была спортивная подготовка, занимался плаванием, гимнастикой. Валерия танцует с 12 лет. В 17 она уехала из Санкт-Петербурга в Москву, чтоб найти хорошего партнера. С той же целью уехал из Минска 20-летний Андрей. В 1996 году они встретились в «Русском клубе», одном из самых престижных, и стали танцевать вместе по латиноамериканской программе.

Андрею хотелось прославить родную страну, и молодая пара решила выступать за Беларусь, к тому же казалось, что белорусским танцорам будет легче пробиться. На чемпионате России только по взрослой любительской категории выступает порядка 180 пар. А в закрытом чемпионате нашей страны — примерно 20. Но в первый год им вообще не позволили представлять страну. У Валерии российское гражданство, а Белорусская федерация спортивных танцев решила: оба партнера должны быть гражданами нашего государства.

По международным правилам интернациональные пары имеют право представлять на соревнованиях любую из двух стран. Так, нынешние чемпионы Европы и самого престижного фестиваля в Блэкпуле Славик Крикливый и Джоанна Льюнис с успехом прославляют своими танцами Бельгию, хоть Славик — представитель Украины.

Андрей и Валерия добились, чтоб в белорусские правила внесли аналогичное мировой практике изменение. Во второй год выступлений им разрешили участвовать в чемпионате Беларуси. И хоть уведомили об этом за день до начала, пара заняла второе место. После чего Валерия и Андрей услышали: считайте, ребята, что сделали показательное выступление, но вы в любом случае не едете ни на чемпионат мира, ни на чемпионат Европы.



В этом году Андрей и Валерия заняли 14-е место на чемпионате Европы в Дании. Еще немножко — и оказались бы в числе 12 полуфинальных пар. После успешного выступления к ним подходили с отзывами, поздравляли и многозначительно говорили: вот если б вы танцевали за другую страну, были бы в полуфинале. Оказывается, можно великолепно танцевать и отлично выглядеть, но спорт не остается равнодушным к политике, и образ страны, за которую выступают спортсмены, влияет на исход состязаний.

*«Когда мы танцуем и слышим «Common, Belarus!» — это приятно,* — говорит Андрей. — *Мы знаем, многие смотрят программу соревнований и, возможно, впервые читают название нашей страны. У нас была курьезная ситуация. Хотели позвонить из Голландии в Минск и забыли телефонный код. Чтоб отыскать Беларусь в справочнике, обращались ко всем в школе танцев. И выяснилось, многие не знают — что за страна. Мы начинаем объяснять: рядом с Польшей и рядом с Россией. «Литва?» - спрашивают. Да нет, не Литва. Обидно! Хочется, чтоб с нашей страной считались, и делаем для этого все от нас зависящее».*

После международных соревнований пары получают мировые рейтинговые очки, что очень престижно и важно. В прошлом году наша пара имела рейтинг 20. Но в ноябре Андрей получил травму голеностопного сустава. Пропустили несколько соревнований, и рейтинг снизился примерно на 10 пунктов. А недавняя победа в Сопоте должна его вновь поднять.

Чтобы всерьез претендовать на международный рейтинг, необходима учеба у ведущих мировых педагогов. Андрей и Валерия уже три года занимаются в Лондоне у нынешнего чемпиона мира по латиноамериканской программе Брайана Ватсона. Год назад на них обратил внимание Рууд Вермий, воспитавший несколько чемпионов мира, Европы и победителей Блэкпула. За учебу наша пара платит самостоятельно. Хоть в странах, которые считают себя передовыми, спортивные комитеты выступают спонсорами лучших танцоров. В Дании, например, четыре лучшие пары на полном обеспечении спорткомитетов.

Сегодня Андрей и Валерия собираются на чемпионат мира в Майями. А точнее, собирают деньги, ведь один билет на самолет — порядка 700 долларов. Грустно. Как подумаешь, сколько белорусских чиновников летают по миру, а велика ль от этого польза стране? Здесь же речь действительно о спортивном престиже государства. Ау, высокопоставленные чиновники от спорта! Быть может, вы прочтете эту статью и постараетесь изыскать средства хотя бы на два билета до Майями! ■

COULEUR LOCALE



# ЛАЗЭР-ШОЎ

**Волька Канапель**

**«Каханьне — гэта белыя моцныя крылы. Выстава лазэрных копіяў карцін М.К. Чурлёніса. Літаратурны музэй Янкі Купалы. Арганізатары: Беларускае адзьдзяленьне міжнароднае грамадзкае арганізацыі «Міжнародны цэнтар Рэрыхаў» ды Культурна-інфармацыйны цэнтар «Скарбы сьвету». Працуе зь 10 да 17 гадзінаў», — скупа паведамляла аб'ява.**



Лазэрныя копіі? Чурлёніса?! Напэўна, такога Менск яшчэ ня бачыў. Колькі гадоў таму ў Палацы мастацтваў выстаўляліся на спаказ копіі твораў Мікалая Рэрыха. Тым разам яны былі зроблены ў тэхніцы так званае шоўкаграфіі. Публіка ймкнулася пабачыць гэты цуд, увесь горад быў завалены афішамі, і дастаць запрашальныя на прэзэнтацыю было амаль немагчыма. Адрозьніць копіі ад сапраўдных працаў сапраўды было цяжка. Усім пажадліўцам прапанавалася зрабіць шоўкаграфічную імітацыю з будзьякой карціны М. Рэрыха. Праўда, каштавала гэта ня тое што вялікіх, а зашмат вялікіх грошай.

Ніякага ажыятажу ў выпадку з Мікалёюсам Канстантынасам не назіралася. Ці то люд паспаліты ня ведае вялікага летувіскага мастака, ці вельмі добра ведае й ня вельмі ахвочы глядзець на ягоныя сумна анэмічныя ды часьцяком самотна нежывыя працы? Як бы там ні было, але ў музэі Я. Купалы быцьцё вызначае ўсьведамленьне. Мярцьвяцкі халодная сэрыя пад назовам «Стварэньне чалавеку» паўплывала ў зусім адваротным накірунку на служак установы.

Адчыніліся дзьверы музэю, і апатычная вахцёрша зь семкамі ў роце запатрабавала 25 рублёў за магчымасьць азнаёміцца з цудам сучаснае тэхніцы законнага плягіяту. «Гэй, Васька, тут да цябе прыйшлі! Ну, а ты чаго стаіш? Марш у залю!» — вахцёрша сплюнула ў паперчаты кулёк семкавае шалупеньне. Як высьветлілася, «Васька» быў ня больш «жывы» за сваю старэйшую супрацоўніцу, хоць выглядаў гадоў на дваццаць. Здавалася, што малады навуковы супрацоўнік музэю ня ведае ня толькі анічога наконт лазэрнае тэхналёгіі, калі выстава пачала сваю працу, калі яе скончыць і г. д., але таксама меў вялікія сумневы, ці вядома яму прозьвішча Чурлёніса наогул. «Я нічога ня ведаю, — добрасумленна прызнаўся «Васька», — я зь іншага адзьдзелу. Прыходзьце ў панядзелак да «Марыванны», вось яна вам усё й патлумачыць». Звычайны чалавек, канечне, не павінны ведаць усё на сьвеце, але гэты «гома сапіенс», магчыма, не карыстаецца й тымі 5 адсоткамі шэрае масы, што звычайна выкарыстоўваюцца ў працэсе мысьленьня нават працаўнікамі прэзыдэнцыі.

Чакаць на «Марыванну» не жадалася. У невялічкае залі гледачоў засмучона чакалі 23 карціны, зробленыя Чурлёнісам з 1905 да 1909 году. Ня самыя ягоныя лепшыя творы. На стэлажах паперкі, раздрукаваныя на струйніку першае мадыфікацыі (гэта калі чарнільныя плямы застаюцца) зь нізкамі вершаў на расейскай мове, хутчэй за ўсё, прысьвечаных самому мастаку, а таксама кнігі пра Чурлёніса, сярод якіх і «Вобразы Янкі Купалы ў мастацтве». Скрыпучая падлога з загінуўшымі ад безвыходнасьці працаў Чурлёніса мушкамі стварала неабходную інтанацыю, якая дапамагала праціскавацца скрозь крэслы, як спэцыяльна пастаўленыя ў пакойчыку так, што адыйсьці ад карціны хаця б на два крокі немагчыма: адзіны варыянт разгледзіць твор — уткнуцца ў яго носам ці йсьці на супрацьлеглы бок так званае «выставачнае залі».

Невялічкі столік упрыгожвалі вазаю са змарнелаю ружаю й кнігаю водгукаў з крывадушна-ветлівымі «дзякуй за выстаўку!». Скульптура песьняра Беларусі ў кутку выглядала яшчэ больш засмучонаю, чымься дзьве старыя дзевы, што балакалі аб нечым банальна ўзьнёсладухоўным — і пры гэтым заўсёды адным і тым жа — седзячы на тых самых крэслах. Скульптуру можна зразумець: яна з гэтае каморкі выйсьці няздольная. Бяжы, хлопча, бяжы!!! 25 рублёў — ня грошы, ды й М.К. Чурлёніс — выдатны мастак, калі глядзець яго ў арыгінале й у Коўне. Гэта мясцовы клімат ва ўсім вінаваты. Як сьведчыць практыка апошніх шасьці гадоў, летам у «Калысцы калгасьнікаў» нічога праводзіць нельга. Звычайна нешта ня тое атрымліваецца. ■



СПАКАЗ

# ПРЫВАТНАЯ ГІСТОРЫЯ

**Троян Спаткі**

**16-га чэрвеня ў галерэі візуальных мастацтваў «Nova», якая знаходзіцца ў Цэнтральнае кніжні імя Янкі Купалы, адбылося адкрыцьцё 3-га з чатырох заплянаваных спаказаў з сэрыі «Аспэкты сучаснае беларускае фотаграфіі» пад назовам «Прыватная гісторыя калектыву».**

Усіх, хто завітаў на вэрнісаж фотавыставы ці проста паласавацца дармавымі сокам ды пернікамі, сустракала пагрозьлівая цыдулка: «У сувязі са сьвятам бібліятэка працуе толькі да 14 гадзінаў». Як высьветлілася, 16-га чэрвеня — прафэсыйнае сьвята бібліятэкараў, і мяноўна ў гэты дзень пад куратарствам Зьміцера Караля 13 мастакоў прэзэнтавалі свае выкшталцоныя працы. Найбольш запамінальнымі падаюцца фотапрацы Ўладзіміра Парфянка з сэрыі «Сад камянеў», Сяргея Брушко зь яго «Брыгадзірам плотнікаў, які адлачывае каля Чачэрску», творы Сяргея Ждановіча, «Дзіцячы альбом» Сяргея Кажамякіна, «Жанчына са сьцагам» Данііла Парнюка, новы погляд на вайсковую рытуальнасьць Ігара Пашахонава, раскрыцьцё паводзінаў людзей у сакральных мейсцах, кшталту Жыровіцкага манастыра, праз нізку працаў Віктара Стралкоўскага.

Фатограф — гэта паляўнічы за візуальнымі падзеямі. Часьцяком ягоныя трафеі — гэта вядомыя нам вобразы-падзеі сацыяльных рытуалаў. Праз іх бясконцую паўтаральнасьць кожны чалавек крочыць усё сваё жыцьцё. Нараджэньні й Дні Народзінаў, Вясельлі, Пахаваньні, Дэманстрацыі, Чэргі й мноства падобных падзеяў яўляюць сабою рытуальную форму калектыўнае існасьці нашага жыцьця. Чалавек заўсёды мае дачыненьні да чаго-небудзь, і часьцей за ўсё гэтыя дачыненьні зьвязаныя з калектыўным-бессэнсоўным, ці архэтыпам. Кожная мэнтальнасьць, кожная нацыя нараджае свае пазнавальныя тыпы калектываў. Выявіць іх мікрагісторыі — гэта й есьць мэтаю праэкту.

Можна шмат разважаць пра беларускую мэнтальнасьць, але якімсьці парадаксальным чынам мы яе ўжо ведаем і разумеем без усялякага разважаньня, калі выходзім на вуліцу ды зьліваемся з масамі прахожых, калі вячэраем дома зь сям'ею, глядзім на стадыёне футбол ці сядзім у чытальнае залі кніжні. Калектыўнасьць — гэта заўсёдны фон нашага жыцьця. Мастацтва фатографа тут — зрабіць гэты фон бачным, адлюстраваць, як зьвязана зьяўленьне ці зьнікненьне фігуры суб'екта з фонам.

Трэба дадаць, што пад кіраўніцтвам Уладзіміра Парфянка вэбдызайнэр Ганна Драпеза ажыцьцявіла *праэкт вэб-альманаху «Фотаскоп», які разьмешчаны па адрасе: www.photoscope.iatp.unibel.by.* Тут зьмешчаны артыкулы па гісторыі фатаграфіі, тэорыя й крытыка фотамастацтва, галерэі беларускіх фатографаў, а таксама агляды фотавыстаў. ■

ПАДЗЕЯ

# ЛІТАРАТУРНЫ ЭКСПРЭС

**Зьміцер Дэйма**

**Міжнародны праэкт «Літаратурны экспрэс 2000» — адна з буйнейшых грамадзкіх і культурных падзеяў, прымеркаваных да сустрэчы новага тысячагодзьдзя. 2-га чэрвеня 120 літаратараў з 45 краінаў Эўропы адправіліся з вакзалу «Сантэ Апалёнія» у Лісабоне на шэсьць тыдняў у вялікае падарожжа па маршруце легендарнага «Паўночна-паўднёвага экспрэсу», які зараз амаль што забыты.**

Пісьменьнікі наведаюць Гішпанію, Францыю, Бэльгію, Нямеччыну, Польшчу, Летуву, Латвію, Эстонію, Расею й Беларусь. 17-га ліпеня літаратурнае падарожжа скончыцца ў Бэрліне шматдзённым урачыстым сьвятам. Пісьменьніцкі цягнік зробіць супынкі ў 23 гарадох, у тым ліку ў Менску й Берасьці, дзе пройдуць публічныя чытаньні, дыскусіі, абмеркаваньні праблемаў агульнаэўрапейскае будучыні, моўнае й літаратурнае разнастайнасьці кантынэнту

9-га ліпеня вялікае тэатралізаванае сьвяткаваньне Купальля пад дэвізам «Беларусь праз межы й стагодзьдзі» адбудзецца на радзіме Янкі Купалы ў Вязынцы, куды будуць запрошаны й нашыя пісьменьнікі. 10-га ліпеня Літэкспрэс дасягне сталіцы Беларусі. Літаратурныя сустрэчы, дыспуты, сэмінары на тэму «Літаратура Эўропы запрашае» пройдуць у Нацыянальнае бібліятэцы, Музэі тэатральнае й музычнае культуры, у музэях Янкі Купалы й Якуба Коласа, у кніжнях імя А.С. Пушкіна й Я. Купалы, у бібліятэцы Акадэміі навук.

Удзень удзельнікі праэкту будуць весьці гаману з калектывамі газэтаў, часопісаў, а таксама выдаўцамі «Полымя», «Крыніца», «ЛіМ», «Культура», «Маладосьць» і іншымі. Увечары у Вялікае зале Дома літаратара пройдзе заключная сустрэча гасьцей зь беларускімі пісьменьнікамі й кнігавыдаўцамі, якія прадстаўяць навінкі перакладзеных на беларускую мову твораў замежных аўтараў. «Чарнобыль — боль Беларусі» станецца асноўнаю тэмаю дыскусіі ў Доме літаратара.

Тэатр псіхічнае неўраўнаважанасьці й яго чальцы Зьміцер Вішнёў, Віктар Жыбуль, Вальжына Морт, Ільля Сін прэзэнтуюць свой пэрфоманс. Сярод запрошаных — шырокавядомыя беларускія пісьменьнікі Вольга Іпатава, Леанід Дранько-Майсюк, Андрэй Федарэнка, Ніл Гілевіч, Янка Брыль, Сьвятлана Алексіевіч, Генадзь Бураўкін, Аляксей Дудараў, Алесь Разанаў і іншыя.

Удзел Беларусі ў Літаратурным экспрэсе 2000, які знаходзіцца пад патранажам Эўрапейскае рады, Эўрапейскае камісіі й ЮНЭСКА, сьведчыць, што беларуская тысячагадовая літаратура валодае ня меньшым патэнцыялам, чымься іншыя эўрапейскія літаратуры, і што й у нашае краіне захаваліся духоўныя скарбніцы, якія ня сорамна перадаць у наступны мілéніюм. ■

